**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня, 5 сьнежня 1922 г. № 10.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.

Цана нумару 30 марак.
Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, ў месяц 150 марак.
Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.
Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г.

Абвесткі:
Цэлая старонка. . . . . 10.000 мк.
1/2 старонкі . . . . . . 5.000 „
1/4 „ . . . . . . . 3.000 „
Дробныя абвесткі. . . на 100 „ за радок

*Кераўнік Рэдакцыі:* ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ *Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач. С. Бальлін, В. Шакун, Я. Драздовіч. А. Шапель.*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ.

**Рэдактар Сыльвэстар Ваяводзкі выбраны паслом у Лідзкім вокрузе і праз гэта ня можа ён далей быць афіцыяльным рэдактарам „Вызваленьня Народу“, бо гэта забараняецца правам. Дзеля гэтага сягоньняшні нумар падпісвае грам. Казімер Сакалоускі. Пасол Ваяводзкі далей будзе пісаць у газэтку і памагаць яе рэдагаваць.**

# УВАГА!

**Хто выпісау нашую газэтку, а на пошце, або у валасьці яе не аддаюць — няхай зараз-жа напіша аб гэтым у Рэдакцыю. Цяпер, калі маем сваіх паслоу, дык можам праз іх спраудзіць, хто вінават, што газэтка гіне па дарозе і пакараць нясумленных вураднікау, ці войтау, альбо сэкрэтароу!**

# ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ.

Выбары скончыліся. І зноў сабраўся новы Сойм:

Але народ ува ўсёй Польшчы не аказаўся яшчэ на вышыні задачы.

„Вызваленьне" вясковага народу мае цяпер больш як у два разы болей паслоў, як у мінулым сойме. У старым Сойме было толькі 23 паслы „Вызваленьня", а з Віленскага Сойму прыбыў навесну дваццаць чацьвёрты. Дык разам было 24.

**Цяпер „Вызваленьне" мае 49 паслоў.**

З гэтага ліку, з нашага віленска-навагрудзкага „Вызваленьня" — 11. Гэта — паважная перамога. Але, нажаль, гэта зьяўляецца ледзь толькі часткаю сойму.

Соцыялістыя маюць 41 пасла. Нацыянальная Рабочая Партыя 18. А разам з „Вызваленьнем" уся лявіца польская мае 108 галасоў. Дасюль дадаецца 11 беларускіх галасоў і больш як дваццаць украінскіх, што разам дае крыху больш як 140 лявіцовых галасоў на агульны лік 444 паслы. А эндэкі маюць 163 галасы ды разам з „цэнтрам" 169. Дык аб большасьці рашае „Пяст". Праўда іх толькі 70 паслоў (у мінулым Сойме мелі 90), — але затое стаяць пасярэдзіне разам з жыдамі (34) і немцамі (16). Гэткім чынам, калі „Пяст" пойдзе направа, дык улада будзе правіцоваю, калі пойдзе налева, дык панская ўлада будзе немагчымаю.

Але „Пяст" нешта круціць направа. Спрытна ашукаліся гаспадары, галасаваўшыя за „Пяста", а цяпер да магільнае дошкі будуць адчуваць на сабе адпавядальнасьць за ўвядзеньне панскае ўлады праз Вітосаву здраду.

Аказалася, што разам проці паноў і эндэкаў галасавала ўва ўсёй дзяржаве **больш як 4 мільёны чалавек за польскія партыі і амаль што 2 мільёны за партыі няпольскія.** Агулам **6 мільёнаў** чалавек падалі галасы **проці эндэкаў.**

А за эндэкаў галасавала толькі 2½ **(два с палоўваю) мільёны** чалавек, падкупленых, альбо ачмураных за вялікія грошы.

І хаця народ у Польшчы даў гэтак выразнае пасьведчаньне, што ня хоча эндэцкае ўлады — аднакжа праз здраду „Пяста", палегчаную спосабам выбіраньня (распісаньне выбараў) могуць запанаваць цяпер панскія ўрады.

Гэта вельмі сумна.

## Мы прайгралі.

Мы прайгралі выбары праз тое, што ўсе паны галасавалі разам, а народ быў разьбіты на розныя партыі, рабочыя на 3, а сяляне навет на 4 партыі. Мы прайгралі, бо Вітосавы „Пясты" здраджваюць народ, мы прайгралі, бо ня ўсюды яшчэ народ зразумеў, дзе яго інтэрас, дзе праўда, а дзе фальш ды мана правіцы.

Мы прайгралі, бо маем толькі 49 паслоў на агульны лік 444; палова, якая дае большасьць гэта 222, а гэтага навет разам з лявіцаю ня маем.

## Мы выйгралі.

Але мы выйгралі, бо ідэя шчырага і чэснага народнага руху падрасла. **Адзін мільён чалавек падаў галасы за „Вызваленьне".** А раней гэтага ня было. Пры выбарах у Віленскі Сойм „Адраджэньне" адтрымала 29 тысяч галасоў, а цяпер мы адтрымалі 170 тысячаў. Гэта ужо зьяўляецца перамогаю народнае справы, што ў нас у Віленшчыне й Навагрудчыне мы адтрымалі 10 мандатаў на 21 вясковы мандат.

Мы выйгралі, бо маем у Сойме абаронцаў, бо маем тых, якія будуць пільнаваць, каб у нас не рабілася народу вялікае крыўды.

Мы выйгралі, бо ў гэтым Сойме ўдасца правесьці не адну справу, бо эндэкі маюць толькі 169 галасоў на 444, дык і яны маюць меншасьць.

Цяпер яшчэ нельга сказаць напэўна, што будзе. Але праз тыдзень будзем магчы напісаць, што робіцца сапраўды і ці Вітос ужо здрадзіў народ, ці не.

Л. Хамінскі.

## Вызваленцы!

Можа не адзін з вас дзівіцца, чаму ўжо два тыдні ня выходзіць нашая газэтка, можа не адзін з вас горка падумаў, што пасьля выбараў газэтка ня будзе выходзіць, што мы так, як іншыя партыі, працуем толькі перад выбарамі, а пасьля выбараў запамінаем аб патрэбах народу.

Не, дарагія грамадзяне! Хаця ўсе мы вельмі працавалі, хаця вельмі змучыліся, але не адпачываем і ня будзем адпачываць, пакуль не настане поўная перамога народнае справы. Прычына, што 2 тыдні газэтка ня выходзіла—іншая.

Усе ведаем, што „Вызваленьне" беднае, што мае толькі тое, што самі вызваленцы зложаць. Выбары каштавалі дорага, бо каб пабароць паноў, трэба было друкаваць шмат газэтак, шмат езьдзіць чыгункаю ды фурманкамі, трэ было хаця некалькіх найздальнейшых людзей утрымаць дзеля агітацыі. А на ўсё гэтае трэба цяпер мільёнаў. А на ўсё гэта ня стала тых убогіх грошай, якія складалі бедныя сяляне. Трэ было дзеля перамогі выбараў зрызыкаваць і пазычыць, хоць-бы і на спекуляцыйны процэнт з Банку. Выбары прайшлі ў нас, у нашых бакох удачна, але даўгі (некалькі мільёнаў марак) засталіся. Вось жа цяпер мусім гэтыя даўгі выплачваць у срок. Калі-б мы чакалі, пакуль ізноў наплывуць складкі, дык было-б вельмі доўга. Дык на першым сходзе паслоў і сэнатараў вызваленцаў пастаноўлена, каб гэтыя даўгі выплацілі самі паслы са сваіх пэнсіяў (пакуль што кожны па 100 тысячаў у месяц). Апрача гэтага пасьля выбараў трэба не аднаму вызваленцу-інструктару памагчы, пакуль ён ізноў знайдзе заработак.

Новых пазычак рабіць нельга.

А на тое, каб надрукаваць для ўсіх і разаслаць нумар нашае газэткі, трэба цяпер зрасходаваць каля 400 тысячаў (усё страшэнна падаражэла: і папера і друк, і пошта). А людзі прывыклі ў часе выбараў, што адозвы й газэты кожны даваў дарма і ня вельмі цяпер сьпяшаюцца плаціць за газэтку хоць гэтых пару марак. Дык каса Рэдакцыі тымчасам пустая. Праз гэта й газэтка ня вышла 3 разы, але толькі 1 раз.

Пасьля Новага Году хочам, каб нашая газэтка выходзіла рэгулярна, каб была большай, каб пісала ня толькі аб палітыцы, але й аб школе, аб коопэрацыі, аб гаспадарцы, аб валасных справах і аб усім тым, што цікавіць кожнага разумнага вызваленца-селяніна.

Але перад гэтым трэба давясьці да парадку ўсе выбарчыя справы, трэба далей вясьці арганізацыйную працу, трэба, каб ня

колькі чалавек у Вільні аб гэтым думалі і стараліся, але каб кожны з вас памог, ня толькі пішучы ў газэтку, але й прысылаючы за яе ў час грошы.

Галоўная Управа не адпачывае. Галоўная Управа — гэтых некалькі чалавек — робіць усё, што можа і далей будзе працаваць для нашай супольнай справы але трэба ёй памагчы.

Дык памажэце нам. Браточкі, і павядзем далей удачна нашую працу й барацьбу аж да канчальнай перамогі

## Новыя рэпрэсіі і гвалты.

Няма канца эндэцкай злосьці, што „Вызваленьне" ў нашых бакох правяло найбольш паслоў. Крычаць, што мы засыпалі грашмі вясковае насяленьне, што фальшавалі выбары, хоць амаль што ўва ўсіх абводных камісіях прэзэсамі былі толькі паны. Панскія цюцькі—агітатары, якім у нашых бакох не ўдалося загітаваць ды ашукаць людзей, расказваюць бытцам мы рабілі выбары за бальшавіцкія, нямецкія і Бог ведае якія яшчэ мільёны.

Хай сабе маняць у бясьсільнай злосьці — ўжо ніхто ім ня верыць.

Але найгорш, што яны далей людзей кveляць і прасьледуюць. Спачатку, калі ведалі аб рэзультатах выбар ў толькі ў найблізейшых акругох, дзе ўсюды перамаглі вызваленцы й беларусы, дык пачаліся стуляцца і падлізвацца са страху. Але пасьля, як даведаліся з газэтаў, што ўва ўсёй Польшчы прайшло шмат эндэкаў (8) і пястоўцаў ды жыдоў капіталістаў, дык ізноў задзялі галаву і давай вінаваціць, дэнунцыяваць ды пакаваць людзей у вастрог за тое, што стаялі за „Вызваленьне", альбо за беларусаў.

Нашыя выбарныя паслы цяпер найбольш ужываюць часу, каб гэткіх няшчасных выпушчаць з вастрогу. І ўжо шмат звольнілі, бо найчасьцей аказваецца, што а ніякага доваду, а ніякае віны няма. Але некаторых ужо пасьпелі аддаць пад суд, бо знайшліся дармаеды шпігі, якія на паперы засьведчылі, што такі й такі вызваленец агітаваў проці ўрадовае ўлады, альбо нагавараваў паліць двары, збройна бароцца з войскам—і іншую ману, што бытцам ён камуністы за бальшавіцкія грошы і г. д. У гэткіх выпадках ужо трудней адразу памагчы чалавеку—на гэта трэба больш часу. Перш за ўсё „Вызваленьне" будзе трэбаваць у Сойме, каб для ў іх палітычных абвясьцілі амністыю (звальненьне), але тымчасам давайце зараз у Управу ў Вільні аб арыштах — найлепей на пісьме з подпісамі сьведкаў, дык як можам, будзем бараніць усё роўна, ці тых, што памагалі 3, ці 16 (беларусам) пры выбарах.

Толькі ведайце, грамадзяне, што пакуль яшчэ лявіцовага ўраду няма, дык не заўсёды адразу можна памагчы. бо й далей проці нас усе і, як магуць, робяць паслом вызваленцам труднасьці, калі яны хочуць памагчы народу.

С. Ваяводзкі
пасол.

## „Чорная сарочка".

Над італьянскім народам павісла цяжкая, чорная хмара. Зьявілася там страшная прыява. апранутая ў чорную сарочку, якая злавешчую запаведзь дае цэламу сьвету, асабліва усёй Эўропе... Як у Расеі сьмерць, агонь і голяд прынёс чырвоны бальшавізм, так сьмерць волі й народным правом прыгаварыў у Італіі рэакцыянэр, апрануты ў чорную сарочку.

Рэакцыянэры, італьянскія паны й багатыры пастанавілі сілаю здушыць сярод народу ў Італіі ўсе яго дамаганьні зямлі, працы і чалавечых правоў. Стварылі тайнае таварыства „фашыстаў",— масонства, такі згавор, згарнулі вялікія грошы, закупілі зброю, нанялі шмат людзей, што жыць з чаго ня мелі. утварылі з іх фармальнае войска і пры яго помачы сьпярша душылі выступленьні народу за правы і зямлю, а нарэшце цяпер сілаю забралі месты, сілаю ўзялі ў сваё рукі ўладу ў краі. Кароль адразу прылучыўся да іх а ксяндзы па касьцёлах правілі хвалебнае набажэнства. Гэткім чынам у Італіі запанавалі фашысты. Мундзерам іх жаўнэроў зьяўляецца чорная сарочка, а камандзерам іх нейкі Бэніто Муссоліні, які таксама носіць чорную сарочку.

„Чорная сарочка" ў Італіі зрабілася знакам гэткае рэвалюцыі, якая не перакручвае старога парадку і ня ўводзіць новага народнага ладу; там яна мае мэтаю забіць і задушыць усе лятуценьні нацыянальных масаў аб народаўладзтве. Усе лятуценьні іх аб здабыцьці калі-нібудзь у сваёй бацькаўшчыне ўласнага кавалка хлеба, ўласнага кавалка зямлі дый нагул працы.

„Чорная сарочка" мае заданьнем вярнуць даўнейшае самаўладнае панаваньне монарха ,мае заданьнем вярнуць усяўладнае, душачае народ панаваньне клір, мае мэтаю зьвясьці нанішто ўсё, што паходзіць з волі народу і з яго выбару.

Бэніто Муссоліні, як павадыр „Чорнае сарочкі" ўжо абняў у Італіі ўладу, кароль зацьвя дзіў яго, а ксяндзы ўрачыста багаславілі. Муссоліні зрабіўся старшынёю італьянскага ўраду. Ранейшых міністраў паскідаў, а, склікаўшы парлямэнт, сказаў яму, што будзе правіць сам, сам ўладна, а калі не раэганяе пасл ў парлямэнту, дык толькі таму, што будзе правіць бяз іх. Сказаў таксама, што з гэтага часу будзе радзіцца толькі з сэнатам, які назначыць кароль (са сваіх людзей, з паноў ды багатыроў).

Маніфэсты сваё Муссоліні пачынае словамі: „Хай мяне падтрымлівае Бог", альбо „Дзякуй Богу Усемагутнаму".

А якою ж мае быць работа, які зьмест яго ўраду? Дык выказаў такі іх, як запаведзі, а нашыя эндэцкія газэты з вялікай радасьцяй гэтыя запаведзі абвяшчаюць. Гэтак яны прыпалі ім да спадобы й да сэрца.

Дык першая запаведзь Муссоліні — адданьне ў рукі прыватных прадпрыемцаў (спэкулянтаў, капіталістаў, багатыроў) усіх дзяржаўных прадпрыемстваў: чугунак, тэлеграфаў, тэлефонаў, пошты. Што давала дзяржаве вялікія даходы тое адсюль мае служыць прыватным капіталістам.

Далей безработным і безьзямельным даклярава ў Муссоліні, што палегчыць ім выезд з радзімага краю ў Азію... А сялянам даклярава ў, што з гэтага часу пацягне іх да плацяжу вялікіх падаткаў. Што гэта значыць — кожны з нас добра зразумее.

Польская эндэцыя, чудзячы па яе газэтах, проста аж заходзіцца з вялікае радасьці, што там вось у Італіі знайшоўся нейкі Муссоліні, які й сам ўладзтва

каралёў вяртае і панаваньне багатыроў ды паноў уводзіць і дае ім лепшыя спосабы рабіць багацьце, бо й пошту й тэлеграф і чугунку — усё ім аддае, каб жылі з гэтага хораша й раскошна...

Якую ж навуку стуль бяруць нашыя паны абшарнікі ды іншыя эндэкі?

Яны даўно ўжо пачалі тварыць тайныя збройныя аддзелы пад назваю „вольных стральцоў". І зброю і грошы ўжо здабылі. Скуль — хто-ж ведае? Цяпер газэты пішуць, што апрача гэтага залажылі яны ўжо масонскую лёжу пад назваю „Loża Prawa i Miłości Ojczyzny" (Лёжа права й Любасьці Бацькаўшчыны). Масонства—гэта тайная арганізацыя, нікому невядомая з тайным урадам, які выдае прыказы сваім падуладным. Яны называлі нас масонамі, хаця мы ня былі імі, бо мы заўсёды баранілі народныя правы, паступаючы паводлуг народных пастановаў. А сягоньня гэтыя паны напраўду вяжуцца ў тайныя масонскія лёжы, каб да іх пад лёзунгам „Prawa i Miłości Ojczyzny" паашуканску ўцягнуць наіўных ды ўжываць іх дзеля сваіх праступных мэтаў на крыўду народу.

Эндэцкія газэты бачаць у Муссоліні ўзор дзеля насьледаваньня, дзеля угрунтаваньня панаваньня ў Польшчы свае ўлады і праз гэта ў іх стане вялікая радасьць. А народ павінен сярод сябе кінуць лёзунг: „Зважайма! Будзьма гатовы!"

**М. Маліноускі**
пасол.

## Што чуваць у сьвеце?

**У Нямеччыне** цяпер цягнецца ўнутраны крызыс. Пасьля падзеньня ранейшага ураду канцлерам стаў д-р Куно і прабуе стварыць новы ўрад, апіраючыся на правіцу, аднак праз тое, што соцыялісты рашуча адмаўляюцца працаваць з гэткім урадам дык ня можа ён утварыцца, бо зарганізованыя ў Нямеччыне рабочыя — гэта сіла, з якою павінна мусіць лічыцца той, хто хоча мець там уладу. Прадбачыць што можа навет дайсьці да роспуску парляманту і новых выбараў, праз якія публіка выкажацца, якога ўраду хоча. Заўсёды вось гэткія труднасьці бываюць у палітычным жыцьці, калі ў нацыяльным прадстаўніцтве няма выразнае большасьці, здольнае ўзяць на сябе адпавядальнасьць за ўрад і за кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі.

**У Англіі** скончыліся выбары. Іх прычынаю зьяўляецца падзеньне дасюлешняга кіраўніка ангельскае палітыкі Лёйд Джорджа. Большасьць здабылі яго праціўнікі, консэрватысты, дык яны й возьмуць цяпер кіраўніцтва ўрадам у Англіі. Паводлуг іхняе дэклярацыі можна судзіць, што яны будуць імкнуцца да бязумоўнага утрыманьня міру на сьвеце. Набыла таксама значэньня пры гэтых выбарах і ангельская партыя працы, што злучае ў сабе мільёны арганізованых рабочых. Яны будуць дамагацца заспакаеньня іх патрэбаў. Апошнімі днямі ўжо зьвярнулася да новага ўраду маса цяперашніх ангельскіх безработных, дамагаючыся дзяржаўнай падмогі знайсьці працу.

**На Турцыю** зьвернены цяпер вочы ўсяго сьвету. Там адбываецца гвалтоўны пераварот. Турэцкія незалежнікі маняцца вызваліцца з пад апекі чужых дзяржаваў і йдуць да самастойнага укладу сваіх унутраных адносін. Але таму, што палажэньне іх зямлі зьяўляецца такім, што праз яе вядуць дарогі на Далёкі Усход, усе караблі мусяць ехаць праз прылеглыя да турэцкай аседласьці марскія пралівы — дык заходнія дзяржавы на чале з Англіяй хочуць мець тамака свае ўплывы. Турэцкі султан, які зьяўляецца адначасна й каліфам, г. зн. галавою магамэтанскае веры — ўцёк з Канстантынопалю, ня могучы выйсьці з тых затрудненьняў, якія меў, хочучы пагадзіць жаданьне свайго народу з дамаганьнямі чужых апякуноў.

Прадстаўнікі саюзных дзяржаваў зьехаліся цяпер у швайцарскім мястэчку Лёзаньне, каб парадзіцца аб справах, зьвязаных з Турцыяй і яе адносінамі да іншых эўропэйскіх дзяржаваў. Польшча пастолькі зацікаўлена ў гэтых справах, паскольку знаходзіцца ў саюзе з Румыніяй, а Румынія — гэта найбліжэйшая суседка Турцыі.

## Ізноу самаволя паліцыянтау.

Нас паведамляюць з вёскі Вытаркі, воласьці Іоды, Дзісьненскага павету, што 24 кастрычніка а 12 гадзіне ўночы да хаты Юркі Скавыркі пачало дабівацца 7 чалавек, у тым ліку 4 паліцыянтаў і 3 цывільных. Калі спалоханы гаспадар баяўся адчыніць і патрабаваў, каб прывялі мясцовага старасту (sołtys), нападаўшыя пачалі з крыкам біць у вокны і выломваць дзьверы. Тады Скавырка адчыніў і ў хату ўвайшлі 7 чалавек паміж якімі гаспадар пазнаў аднаго паліцыянта - пастарунковага з Іодаў, Шахоўскага. Усе яны пачалі паляндраваць па хаце, адмыкалі куфры і шафы, папіхалі гаспадара, пытаючыся ў яго, хто быў у яго ў гэты дзень. Пасьля забралі адзежу гаспадара і двох з іх апранyліся (ў тым ліку паліцыянт Шахоўскі). З тым сказалі Скавырцы Юрку, што ён арыштованы і на яго ўласнай фурманцы завязьлі яго ў Іоды на пастарунак.

Тамака невядома за што пратрымалі яго дзьве пары. Усе паліцыянты былі п'яныя і не пазвалялі яму навет выйсьці да каня. І толькі тады, як Скавырка даў нейкаму невядомаму паліцыянту 5.000 польскіх марак — той пазволіў яму дагледзець каня.

Сьведкаю навядзеньня паліцыянтаў у хаце і арышту Скавыркі быў стараста тае вёскі Максім Янушкевіч.

Пакрыўджаны Юрка Скавырка просіць нас, каб скіраваць гэтую справу да вышэйшых уладаў, якія належна пакаралі б самавольных паліцыянтаў.

Дык запэўняем грамадзяніна Скавырку, што гэтае справы не засыпімо і нячэсным нападачом напэўна дастанецца за сваё.



Рэдактар-Выдавец: **Казімір Сакалоускі.** Друк. Баеўскага ў Вільні.